


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 ліпеня 2000 года
№ 27 (272)
Цана ў розніцу 76 рублёў




**Навіны рэгіёна**

## Немцы не засталіся без сувеніраў

**МЯДЗЕЛ**. У 48-ы раз ля абеліска на беразе Нарачы прайшло свята песні, прысвечанае вызваленню Беларусі ад фашыстаў. На "Пеўчым полі" выступілі харавыя калектывы з Мінскай вобласці. Працаваў гандаль, была наладжаная выстаўка работ мясцовых мастакоў і народных майстроў. Іх вырабы спадабаліся і немцам, якія зноўку сёлета будуюць у вёсцы Дружная дамы. Купляюць яны карункі, вырабы з лазы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Паэтаў сабралі ў альманах

**АШМЯНЫ**. На мінулым тыдні тут выйшаў альманах, у якім змешчаныя работы мясцовых паэтаў. Ён складаецца з трох частак: знакамітыя, дасведчаныя паэты і дэбютанты.

Альманах выйшаў на сродкі мясцовай раённай бібліятэкі. На 63 старонках згадваецца больш за 30 паэтаў.

**Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.**

## Аўтобусы рухаюцца па ліміце

**ВІЛЕЙКА**. У раёне адмяняюцца некаторыя прыгарадныя аўтобусы.

Выконваючы абавязкі намесніка дырэктара аўтапарка №5 па эксплуатацыі **Аляксандр Галко** гаворыць, што гэта звязана з увядзеннем ліміту нафтабазай. 500 літраў бензіну і столькі ж дызпаліва ў суткі цяпер атрымлівае аўтапарк. Ліміт уведзены, у сваю чаргу, з–за таго, што аўтапарк не праплачвае свае даўгі за паліва, а яму завінаваціўся райвыканкам, які пакуль не выконвае графік пагашэння даўгоў.

Днямі работнікі аўтапарка атрымалі зарплату за май.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дырэктарскі дэсант у Полацку

**ВАЛОЖЫН**. Учора дырэктарскі састаў школ і дзіцячых садкоў горада, работнікі раённага аддзела адукацыі рабілі аўтобусны рэйд у Полацк.

Акрамя культурнай праграмы, яны планавалі сустрэцца з калегамі ў адной са школ і паглядзець работу дашкольнай установы. Сродкі на паездку выдзеліў аддзел адукацыі райвыканкома.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Імша ля крыніцы

**МАЛАДЗЕЧНА**. Па даўняй традыцыі, у каталіцкую Дзесятуху непадалёк ад Лебедзева, дзе бруіцца святая крынічка, сабралася каля тысячы вернікаў з навакольных вёсак і Маладзечна. Тут, на гэтым месцы, якое цяпер людзі абуладзілі, святары маладзечанскага касцёла на чале з яго пробашчам айцом Гжэгажам Гуральскім справілі святочную імшу.

**Алесь ЦАДКО.**

## Ілаўскія віны з медалямі

**МЯДЗЕЛ**. На Ілаўскім плодакансервавым заводзе замест тых відаў напояў, што ўжо "надакучылі", распрацаваныя і праходзяць сертыфікацыю новыя віны "Купальская ноч", "Зімовы сад", "2000 год".

Нядаўна ілаўцы ўзялі два медалі на IV міжнародным конкурсе–дэгустацыі він і каньякоў у Мінску. Віно "Каханай жанчыне" атрымала залаты, а "Арыядна" – сярэбраны медаль.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Ілаўскія віны маюць попыт.

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 8 ліпеня**

**Мінск**



11 - 14°C (уначы)
27 - 28°C (удзень)

**Вільня**



11°C (уначы)
27°C (удзень)

**Нядзеля, 9 ліпеня**

**Мінск**



13 - 19°C (уначы)
21 - 28°C (удзень)

**Вільня**



17°C (уначы)
19°C (удзень)

# Сёння і заўсёды...

## Тысячы пілігрымаў прыйшлі ў Будслаў



У Будслаў прыйшлі вернікі рознага ўзросту. Дзеці – таксама.

Фота Алеся Высоцкага.

У суботу тысячы католікоў з усёй Беларусі і з–за яе межаў прыйшлі ў Будслаў, каб укленчыць перад абразом Маці Божай Будслаўскай. Штогод фэст адбываецца 2 ліпеня. Сёлета традыцыя была парушана. Свята праходзіла 1 ліпеня. 2 ліпеня – нядзеля. І таму арганізатары мерапрыемства вырашылі, што лепш, калі святары правядуць гэты дзень у сваіх парафіях.

Пілігрымкі пачалі прыходзіць у пятніцу. Былі яны з розных вёсачак і гарадоў: Мінска, Віцебска, Маладзечна, Друі, Глыбокага, Баранавічаў, Нясвіжа, Мёраў... Большасць рабілі пешую пілігрымку. Некаторыя знаходзіліся ў дарозе больш за тыдзень. Амаль суткі ў касцёле Ушэсця і звонку яго, на вялікім драўляным алтары, праходзілі імшы, малітоўныя чытанні, чыталіся рэфераты. Вернікі неслі свае інтэнцыі Маці Божай Будслаўскай, прасілі ў яе ласкі і заступніцтва перад богам, набіралі гаючай святой вады, спавядаліся. Панавала атмасфера дабрыні, радасці, спакою.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Мядзел.**

Заканчэнне на 2-й стар.

■ **ЛЕПШЫ ПА ПРАФЕСІІ**

## Дырэктар лясгаса стаў лепшым лесаводам

**СМАРГОНЬ. Мясцовы лясгас адзіны ў вобласці мае статус доследнага. Тут распрацоўваецца праект устойлівага ўпраўлення лясамі: ад эканомікі да лясных спраў, наладжаная вытворчасць дачных домікаў.**

Дырэктар лясгаса Аляксандр Пахомаў, які сёлета спраўляе дзесяцігоддзе на сваёй пасадзе, на днях атрымаў званне "Лепшы лесавод рэспублікі". Гаспадарка ў яго немалая: 9 лясніцтваў, свінаферма, 2 дрэваапрацоўчыя цэхі, рамонтныя майстэрні, фірменны магазін.

Сёння на тэрыторыі лясгаса праходзяць спаборніцтвы сярод вальшчыкаў лесу з Гродзенскай вобласці.

**Альберт КУМІШЧА.**

■ **СЕРВІС**

## У Гальшанах адкрылася кафэ

**АШМЯНЫ. У Гальшанах з'явіўся свой кафэ-магазін. Заснавальнікам стаў мясцовы крухмальны завод. Гэта першая ўстанова такога тыпу ў Гальшанах.**

У дзень адкрыцця мясцовыя выдатнікі школьнай вучобы змаглі пачаставацца дарамі бясплатнага "салодкага стала". У кафэ ёсць тэлевізар з відэамагнітафонам, таму наведвальнікі могуць купіць марожанае і паглядзець мастацкі або мультыплікацыйны фільм. Хаця там прадаюцца і алкагольныя напіткі.

**Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.**

# Сёння і заўсёды...

## Тысячы пілігрымаў прыйшлі ў Будслаў

Пачатак на 1-й стар.



Фота Алеся Высоцкага.

Маладзёжная праграма, дзе прысутныя спявалі ўсе разам хрысціянскія песні. А святары "заводзілі" моладзь не горш за якіх дыск-жакеяў.



Фота Алеся Высоцкага.

Святую імшу праводзіў кардынал Казімір Свёнтак.



Фота Алеся Высоцкага.

Напэўна, наймаладзейшая пілігрымка на фэсце – дзяўчынка Маша з Мёраў. Шлях да Будслава яна пераадолела ў дзіцячай калясцы. Біскуп з ёй за руку вітаецца, а 30 чэрвеня ён і з днём нараджэння павіншаваў – дзяўчынцы споўніўся годзік.



### Будслаўскі абраз Маці Божай

**Адзін з найбольш шанаваных каталіцкіх абразоў на Беларусі. Знаходзіцца ў касцёле Ушэсця Маці Божай у мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. Абраз праславіўся цудамі вылечвання, якія апісаныя настаяцелем Э. Зеляевічам у кнізе "Задыяк на зямлі" (1650). З пачатку 1990–х гадоў адбываюцца паломніцтвы пілігрымаў, прымеркаваныя да 2 ліпеня. 2 ліпеня 1996 года папскі нунцый арцыбіскуп Д. Грушэўскі абвясціў папскае пасланне, у якім Маці Божая Будслаўская названая патронкай Мінска–Магілёўскай дыяцэзіі, гэта значыць, Беларусі.**

■ ДНІ

**10 ліпеня** – 100 год з дня нараджэння **П. Сергіевіча** (1900–1984), беларускага і літоўскага жывапісца і графіка.

**90 год** з дня нараджэння **С. Астравумава**, беларускага акцёра і рэжысёра.

■ ДЭМАГРАФІЯ

### Яшчэ 2 жанчыны атрымалі ордэн Маці

**ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў раёне ўручалі ордэны Маці. Ардэнаносцамі сталі начальнік Выганіцкага аддзялення паштовай сувязі Вольга Шунейка і работніца калгаса імя Куйбышава Валянціна Грыцкевіч.**

Абедзве нарадзілі і выхоўваюць па 5 дзяцей. Сёлета гэта першае прыбаўленне ў колькасці ардэнаносцаў. Усяго ў раёне жывуць больш за сорак жанчын–уладальніц ордэна Маці.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Кінатэатр "Радзіма", ліпень

**Вялікая зала**

7–9 – "Канец свету", ЗША, трылер, А. Шварцнегер 16–00, 20–00

"Шпіёнскія страсці", ЗША, камедыя 18–10, 22–00

11–16 – "Удар з космасу", ЗША, фільм–катастрофа 16–00, 20–10

"Хуткасць–2", ЗША, баявік, акрамя асоб да 16 год 18–00, 22–00

**Кожную пятніцу, суботу, нядзелю – дыскатэка.**

Для малодшых школьнікаў – 17–00

Для моладзі – 20–00

У кінатэатры працуе бар, камп'ютэрныя гульні.

**Для дзяцей**

7 – "Мак–мільянер" 13–00

8 – "Юмі – прынцэса–дракон" 13–00

9 – "Дыназаўр" 13–00

11 – "Разбойнік і прынцэса" 13–00

12 – "Полі–2" 11–00

13 – "Кароль – палярны мядзведзь" 13–00



■ КАНЦЭРТЫ

### Гарадскую ратушу ў Германіі адкрываў дзіцячы ансамбль з Маладзечна

**З 23 чэрвеня па 3 ліпеня доўжыліся гастролі ў Германіі ўзорнага дзіцячага ансамбля "Самагуды" Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы.**

Асноўная прычына запрашэння – адкрыццё гарадской ратушы ў горадзе Кронсхаген. Акрамя гэтага, ансамбль даў больш за дзесятак канцэртаў: выступалі ў мясцовым бюргерхаўзе (накшталт нашага дома культуры), бальніцы, доме састарэлых, былі і ў суседнім Кілі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Ці паступаеце вы сёлета вучыцца?



— Збіраюся паступаць у вілейскі фінансава–эканамічны каледж на спецыяльнасць «эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве».

**Наталля Пагуда, скончыла ПТВ–87.**



— Я паступіў ужо летась. Віншую сваю групу №29Э з заканчэннем першага курса.

**Вадзім Космач, другі курс маладзечанскага палітэхнікума.**



— Пасля заканчэння маладзечанскага палітэхнікума я збіраюся паступаць у БДПА на спецыяльнасць «электраабсталяванне».

**Дзяніс Лубнеўскі, летась скончыў 9 класаў вілейскай СШ №5.**



— Я ўжо вучуся ў маладзечанскім палітэхнікуме. Нікуды больш паступаць не збіраюся. Пайду працаваць.

**Ігар Сопат, летась скончыў 9 класаў СШ №2.**



— Я збіраюся паступаць у БДПА, калі скончу маладзечанскі палітэхнікум. Сярэдні бал атэстата ў мяне – 4,7.

**Аляксандр Чанада, базавую адукацыю атрымаў у СШ №8.**



— Буду паступаць у ПТВ–87 на спецыяльнасць «сакратар-машыністка, аператар ЭВМ».

**Таццяна Пакладок, скончыла 9 класаў СШ №2.**

**Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.**

■ БАЗАРНЫЯ ХІТРЫКІ

# Крадзёж з калькулятарам

**Сучасныя махляры добра засвоілі тэхнічныя прылады. Адзін з інструментаў махлярства – звычайны калькулятар.**

Калі гандлярка на базары паказвае вам табло гэтага прыстасавання з нейкай сумай, будзьце асабліва ўважлівымі. На маладзечанскім базары вельмі пашыраны просты, але эфектыўны спосаб падману. Прыкладам, купляеце вы кілаграм бананаў па 550 рублёў, а таксама трыста грамаў апельсінаў па 600 рублёў за кілаграм і вам прапануюць заплаціць 1 тысячу 730 рублёў. Вы цягнецеся за грашыма ў кашалёк, але... нешта стрымлівае.

Просіце пералічыць. Дзяўчына, амаль школьніца, тут жа пералічвае і паказвае калькулятар: памылак не можа быць – 1 730 рублёў. Але вы прыкідваеце, што, нават, калі б купляўся адзін кілаграм апельсінаў, замест трохсот грамаў, то і ў такім выпадку было б не шмат болей за тысячу. Просіце пералічыць яшчэ раз. Дзяўчына на вашых вачах "закладае" ў калькулятар кошт бананаў – 550 рублёў, заносіць гэта ў памяць, затым вызначае кошт апельсінаў, а гэта атрымліваецца 180 рублёў, і дадае да змесціва памяці.

Дзіва, але ў яе па–ранейшаму на калькулятары 1 тысяча 730 рублёў. Вы настойліва просіце пералічыць яшчэ адзін раз. Яна з неахвотай робіць гэта, але ўжо ўручную шарыкавай ручкай на руцэ. 550+180=730!

Вас, "дурня", абводзілі вакол пальца не раз. Але толькі не цяпер! І вы прапануеце дзяўчыне выкінуць свой калькулятар на сметнік або выкінуць з яго памяці **"лішнюю" тысячу, якая загадзя ў гэтую памяць была загнаная дзеля прастачкоў.** Калі чалавек купляе не толькі бананы і апельсіны, і не ў такой колькасці, то нумар з лішняй тысячай гарантаваны.

За дзень, напрацаваўшыся, дзяўчына прысядзе, падлічыць лішнія тысячы ў сваёй касе. Гэта і будзе колькасць нас, дурненькіх, якія не заўважылі махлярства. Ну, а за наша здароўе ёй можна і чарку падняць. Там сама, дзе толькі нядаўна віравала жыццё і круціліся грошы.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ МІЖНАРОДНАЯ ПАЛІТЫКА

# Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан падпісаў рашэнне аб адмене гандлёвых ільготаў для Беларусі

**Прэзідэнт ЗША падпісаў рашэнне аб спыненні агульнай сістэмы гандлёвых прэферэнцый (СГП) у адносінах да Беларусі. Пра гэта абвесціла гандлёвы прадстаўнік Злучаных Штатаў Шарлен Баршэўскі. Паводле яе словаў, асноўнай прычынай адмены льгот для Беларусі з'явілася парушэнне правоў працоўных ў краіне. Згодна са стандартнай працэдурай, рашэнне ўступае у сілу праз 2 месяцы пасля яго падпісання.**

СГП ужываецца Злучанымі Штатамі ў адносінах да дзяржаў, якія развіваюцца, і разлічаная на падтрымку палітычных і эканамічных рэформаў.

Як раней паведамлялі БелаПАН у пасольстве ЗША ў Беларусі, да разгляду пытання аб спыненні СГП улады Злучаных Штатаў звярнуліся па ініцыятыве Федэрацыі амерыканскіх прафсаюзаў AFL/CIO, якая аб'ядноўвае каля 13 мільёнаў чалавек. Прадстаўнікі прафсаюзаў выказалі заклапочанасць сітуацыяй ў сферы правоў працоўных у Беларусі.

Паводле інфармацыі пасольства ЗША, адмена прэферэнцый закране каля паловы беларускага экспарту у Злучаныя Штаты – пры гэтым мытныя плацяжы ў сярэднім павялічацца на 5%.

Агульная сума беларускага экспарту ў ЗША за 1999 год склала 79,7 мільёнаў долараў ЗША; гандаль са Злучанымі Штатамі склаў за 1999 год 1,7% ад агульнага знешняга тавараабароту Беларусі.

**Алесь АБРАМОВІЧ, БелаПАН.**

■ СПАЖЫВЕЦ

# Экспертызы цяпер робяць у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб даказаць прадаўцу, што ён прадаў няякасны тавар і вярнуць свае грошы, спажывец абавязаны прадаставіць вынік экспертызы гэтага тавару. Мясцовае таварыства абароны спажыўцоў накіроўвала раней сваіх кліентаў у сталіцу.**

Цяпер ездзіць далёка не трэба: у горадзе з'явілася бюро таварных экспертыз. Лепей і прадаўцам: калі яны прайграюць, то не трэба будзе кампенсаваць выдаткі на праезд спажыўцоў у Мінск (паехаць можна і не на электрычцы!).

# Чэкі павінны выдаваць і прадаўцы з іншых краін

**МАЛАДЗЕЧНА. На рынках горада і рэгіёна немалую долю складаюць прадаўцы–нерэзідэнты (замежныя грамадзяне, якія пастаянна жывуць на тэрыторыі Беларусі). Яны на сваю прадукцыю не выдавалі ні талона, ні чэка, чым парушалі законы нашай краіны і асноўныя правілы гандлёва–вытворчай дзейнасці. Здаралася, тавары (прыкладам, скураныя) прадаваліся неналежнай якасці, але спажыўцу вярнуць свае грошы было праблематычна, бо даказаць, што куртку прадаў той ці іншы "нерэзідэнт", згадзіцеся, цяжка.**

Па ініцыятыве старшыні Маладзечанскага таварыства абароны спажыўцоў Уладзіміра Кляшча гарвыканком прыняў распараджэнне, дзе ўказана, што асобы–нерэзідэнты абавязаныя выдаваць дакумент, у якім павінна быць пазначана дата продажу, найменне тавару, яго кошт і подпіс прадаўца.

Калі гэтыя правілы будуць парушацца, адміністрацыі рынкаў горада павінны забараняць гандаль парушальнікам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 29 чэрвеня | 6 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 670,00 руб. | **690,00** руб. |
| Марка Герм. | 323,55 руб. | **336,76** руб. |
| Літ | 167,52 руб. | **172,52** руб. |
| Рас. руб. | 23,85 руб. | **24,61** руб. |
| Злоты | 152,26 руб. | **159,26** руб. |
| ЕЎРА | 632,81 руб. | **658,64** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | **970 – 980** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.06 | 05.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1150 | **1250** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4490 | **4490** |
| Сасіскі, 1 кг | 1460 | **1404** |
| Рыс, 1 кг | 340 | **330** |
| Грэчка, 1 кг | 550 | **575** |
| Цукар, 1 кг | 375 | **380** |
| Алей, 1 л | 680 | **680** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 370 | **370** |
| Маянэз, 250 г | 150 | **150** |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 250 | **250** |
| Лімоны, 1 кг | 900 | **980** |
| Апельсіны, 1 кг | 540 | **500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | **300** |
| Морква, 1 кг | 330 | **350** |
| Капуста, 1 кг | 250 | **250** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 600 | **600** |
| Масла, 1 кг | 1600 | **1600** |
| Тварог, 1 кг | 500 | **550** |
| Малако, 1,5 л | 250 | **200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 450 | **500** |
| Пятрушка, 1 пучок | 50 | **50** |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 50 | **50** |
| Кроп, 1 пучок | 50 | **50** |
| Салата, 1 пучок | 50 | **50** |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | **600** |
| Бульба маладая, 1 кг | 400 | **300** |
| Морква маладая, 1 пучок | 150 | **150** |
| Абрыкосы, 1 кг | | **1000** |
| Персікі, 1 кг | | **1100** |
| Клубніцы, малое вядро | 5000 | **6500** |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | | **4500** |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | | **2000** |
| Агрэст, малое вядро | | **3500** |
| Чарніцы, малое вядро | | **4000** |
| Вішня, малое вядро | | **4500** |

■ ШКОЛА

# «Пачаткоўцы» вытрымліваюць жыццёвы экзамен

**ВІЛЕЙКА. Сёлета спаўняецца 5 год з дня стварэння пачатковай школы №6.**

– Стваралася яна з мэтай "разгрузіць" на некалькі год сярэднія школы горада, – успамінае яе дырэктар **Васіль Сляпцоў**. – Нам аддалі пад школу будынак былога дзіцячага садка №6, які два гады да гэтага пуставаў.

Расказвае інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер**:

– Калі першы раз наведала гэты будынак, стала шкада тых дзяцей, якія будуць тут вучыцца: сярод усіх колераў пераважалі чорны і шэры. Мы склалі стос прадпісанняў, якія павінны быць выкананыя з мэтай пажарнай бяспекі.

Праз год зрухі было відаць. Усё, што можна было зрабіць сваімі сіламі, школа выканала. Калектыў сам заняўся "перапланіроўкай" школы.

Васіль Сляпцоў:

– Мы цвёрда вырашылі заняць сваё месца пад сонцам. Пачалі з рэфармавання сістэмы адукацыі: прыярытэтнай абралі работу на кожнае дзіця. Кожнае з іх (тут ёсць і дзеці з асаблівасцямі развіцця) мае права паспытаць сябе па інтарэсах, няма "ураўнілаўкі". Часта атрымліваецца, што пачынаюць развівацца нейкія здольнасці, тады чалавечак можа займацца больш паглыблена. Ва ўсялякім разе, дзяцей імкнемся выхоўваць у нацыянальных традыцыях, яны, лічу, растуць усебакова развітыя і вылучаюцца сярод равеснікаў адсутнасцю комплексаў (у нармальным сэнсе).

Дзіцячыя вырабы знаходзяцца паўсюдна: у калідорах і на лесвіцах, сцены размалёўваюцца бязлітасна. Калекцыя рэгулярна аднаўляецца, нядаўна 15 работ перадалі дзіцячай бальніцы.

Цяпер у школу едуць дэлегацыі з суседніх раёнаў – па досвед. Так іншы раз бывае: добрыя вынікі пайшлі там, дзе іх асабліва і не чакалі.

Цяжкасці, натуральна, ёсць. Як і паўсюль. У школе плацяць такія зарплаты і ў такі тэрмін, як і ўсюды ў рэгіёне. "Зеніт" дапамагчы адмовіўся, нягледзячы на тое, што будынак знаходзіцца на балансе завода, і значная частка з 295 вучняў – дзеці яго работнікаў. Але ёсць і памочнікі; у першую чаргу, школа дзякуе заводу "Буддэталі" за дапамогу (у асноўным, сыравінай).

Справы ў гэтай школе ідуць паспяхова, таму можна адзначыць, што падобная мадэль адукацыі мае права на існаванне. Сярод пераваг: няма старэйшых класаў, неразбураныя гульнявыя пляцоўкі, непракураныя прыбіральні. Акрамя таго, што час удзяляецца "пазашкольным" прадметам, паспяховасць па матэматыцы, мовах ды літаратурах такая ж, як і ў іншых.

А нядаўна з двух дзетак знялі штамп "чалавек з асаблівасцямі развіцця". Гэта, бадай, адзін з самых прыемных паказчыкаў для маладога (сярэдні ўзрост 33 гады) калектыву.

**Юрый КАРПІЦКІ.**





Намеснікі дырэктара Святлана Бяргаліна і Мікалай Іваненка ля работ сваіх выхаванцаў.

Фота Юрыя Карпіцкага.

# Туды, дзе даражэй

СМАРГОНЬ. Пачаўсязбор лісічак. Канкурэнцыя сёлета неблагая: акрамя прыёмных пунктаў раённай нарыхтоўчай канторы, займаюцца зборам асобныя магазіны і прадпрымальнікі. Уладальнікі лісічак маюць добры выбар: на рынку цэны за кілаграм бываюць у два разы большыя, чым у нарыхтоўчай канторы.

**Альберт КУМІШЧА.**

# Пчолы прадаюцца на вагу

СМАРГОНЬ. Ліпень — самая роевая для пчолаў пара, і цяпер наладжваецца торг. Сума залежыць ад вагі: 4,5 кілаграма пчол каштуюць 25 тысяч рублёў, спараны рой — 30, 2-3,5 кілаграма пчол можна купіць за 10-20 тысяч. Трохлітровы слоік мёду каштуе каля 15 тысяч рублёў.

**Альберт КУМІШЧА.**



Мёд на любы густ.

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

# За чэрвень беспрацоўных у рэгіёне паменшала на 181 чалавек

За першы месяц лета колькасць беспрацоўных у рэгіёне зменшылася на рэкордную лічбу: 181. Прычым неўладкаваных людзей стала менш у кожным раёне нашага рэгіёна. У дужках паказаныя змяненні з моманту мінулай публікацыі (месяц таму).

| | Колькасць беспрацоўных па стане на 1 ліпеня | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1206 (–30) чалавек | 2,0 % |
| Маладзечанскі раён | 203 (–2) чалавекі | 0,9 % |
| Астравецкі раён | 364 (–13) чалавекі | 2,4 % |
| Ашмянскі раён | 141 (–1) чалавек | 0,8 % |
| Валожынскі раён | 175 (–13) чалавек | 0,9 % |
| Вілейскі раён | 452 (–39) чалавекі | 1,5 % |
| Мядзельскі раён | 227 (–18) чалавек | 1,2 % |
| Смаргонскі раён | 1316 (–65) чалавек | 3,9 % |
| **Усяго па рэгіёне** | **4084 (–181) чалавекі** | |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

